

# Перасьпевы Алеся Камоцкага




# Старый клён

М.Матусовский

А.Пахмутова




Клён стары у дворы
Шыбу мацае лістом,
Нібы кліча перайсьціся надвячоркам.
Як у сьне, сэрца мне
Агарнула хараством
Ад таго, што ты ўжо блізка, мая зорка.

Сьнегапад, сьнегапад,
Сьнегапад згубіў свой сьнег,
Сьвет, мінаючы зіму, ў вясну імкнецца.
А чаму, а чаму,
А чаму так лёгка мне?
А таму, што ты мне хутка усьміхнешся.

Небасьхіл, небасьхіл
Прыглушыў агні свае,
Таямніцу пахаваўшы ў небе чыстым.
І калі на зямлі
Сьпеў гармонік раздае,
Справа ў тым, што пакахалі гарманіста.



# Одинокая гармонь

М.Исаковский

Б.Мокроусов




Наваколье нарэшце заснула,
Подых цемры згасае ў цішы,
Ды дрымотны спакой вузкіх вулак
Сьпеў гармоніка разварушыў.

То, як быццам, за вёску выходзіў,
То, здаецца, вярнуўся дамоў,
Штосьці ў прыцемках ён не знаходзіць
І шукае, шукае ізноў.

Сьвежы повеў начной прахалоды
Кветкі з яблынь страсае у двор,
Гарманіст, не губляючы сподзеў,
Выглядае кагосьці між зор.

Ды ці трэба шукаць так далёка,
Калі шчасьце ў суседнім двары,
Павярніся, зрабіўшы два крокі,
І яго да сябе забяры.



# Летят перелётные птицы

М. Исаковский

М. Блантер




Блакітам нябёсаў асеньніх,
Паветрам празрыстага дня
Лятуць пералётныя птушкі
Цяплейшае сонца дагнаць.
А я на зямлі застаюся
Чакаць маразы і сьнягі —
У роднай сваёй Беларусі,
Дзе кожны куток дарагі.

Растане ільдзінка расстаньня,
Разьвеецца смутак стары,
Стагоддзі лічыць не прыстане
Зязюля ў зялёным бары.
Мая маладзее надзея
І робіць салодкім палын,
Тут, нават калі захварэю,
Ніколі ня буду адзін.

Калі яшчэ вернуцца гусі,
Калі яшчэ прыйдзе вясна...
Да печы пакуль прытулюся,
Зірну на падворак з вакна.
Цяплее пятля сьнегавею,
Што вывесіў студзень на тын.
Ці ж гэтак душу мне сагрэюць
Сьпякотныя сонцы чужын.




# Утомлённое солнце

И.Альвек

Е.Петерсбургский




Так натомлена сонца
Разьвіталася з морам,
Ты сказала з дакорам —
Каханьне — зман.

Ахінутыя сумам,
Без тугі, без адчаю
Твае словы гучалі,
Ґусьцеў туман.

Разьвітаньне не шукае сэнсу,
Разьвітаньне проста настае.

Так натомлена сонца
Разьвіталася з морам,
Ні цябе, ні дакору
Няма ў мяне.

Так натомлена сонца
Разьвіталася з морам,
Ні цябе, ні дакору
Ў мяне няма.



# Ночь светла

М.Языков

Н.Шишкин




Ноч ня сьпіць, над ракой
Поўня шырыць прастор,
Чыстым срэбрам зьвініць
Хваля цемры ў дакор.
Лес заціх, цень галін
Тоіць рэшткі вагней,
Звонкіх песень сваіх
Не пяе салавей.

Расьцьвілі ў снах нябёс
Кветкі новай вясны,
Мроі ў сэрцы ізноў
Абудзілі яны,
Сьветлым імем тваім
Я пярэчу журбе,
Ты — пяшчота мая,
Сумна мне без цябе.

Ноч ня сьпіць, над ракой
Поўня шырыць прастор,
Чыстым срэбрам зьвініць
Хваля цемры ў дакор.
Гэтай ноччу у сьне
У чужой старане
Ты, пяшчота мая,
Ўспамінай пра мяне.

Am Bm7(b5) E7 Am Bm7(b5) E7 Am

Am7 G7 C7 A7(b9) Dm7 G7 C7 Gm7C7

F7 Bm7(b5) E7 Am Bm7(b5) E7 Am

Bm7(b5) E7 Am Bm7(b5) E7 Em7(b5) A7 Dm

Dm7 Bm7(b5) E7 Am7 Gm7 C7 F7 Bm7(b5) E7 Am

Іду не туды, як заўжды,
А вецер зьдзімае сьляды
І песьню новую
Мне прапаноўвае,
Ды я ня слухаю,
Пяю сваю.

Пра час, калі з'явішся ты
Расказвае просты матыў.
У сьпеве маім
Ёсьць месца дваім —
Хачу цябе пачуць.




Нешта папяроска згасла, хоць цягну яе няслаба —
Можа ўспамінаюць людзі, можа праклінаюць бабы,
А можа гэта ты самотна пад вакном
гуляеш злосная,
І агонь гарэць ня хоча, патухае папяроска.

Дым кольцамі разьлятаецца: чых-пых,
Нам такой шырокай вуліцы не хапае на дваіх.

Я твае ня чую крокі, я твае ня бачу вочы,
Але ты паўсюль, навокал,
да мяне ідзеш, ня збочыш.
Што табе ізноў ня сьпіцца?
Што цябе па сьвеце гоніць?
Можа мне ў хлам напіцца?
Каб цябе зусім ня помніць.

Камянём на сэрцы памяць, і пятлёй на шыі думкі.
Ты калісь была чаканай і жаданай, і разумнай,
Ды чагосьці не хапіла, і кудысьці чэрці вабяць.
Ну чаму вы ўсе такія, дарагія нашы бабы?

Дым кольцамі разьлятаецца чых-пых,
Нам такой шырокай вуліцы не хапае на дваіх.




Я пад небам чужым быццам госьць нежаданы,
Чую крык жураvоў, што маркоцяць абсяг.
Сэрцу цесна ў грудзях — рвецца за жураvамі,
Іх да родных мясьцін я праводжу адзін.

Праімчацца яны і па небе Радзімы,
Я б хацеў з вышыні іх вачыма зірнуць,
Я хацеў бы адчуць, як пяшчотна абдымуць
Дарагой старaны успаміны і сны.

Сівізна тумаnоў, слота і навальніца,
Вочы смутных людзей, сонныя паплавы...
Ах, як сэрца баліць, як заплакаць баіцца,
Перайміце свой крык нада мной, журавы.

А яны ўсё бліжэй, я ў палоне адчаю,
Быццам вестку журбы тоіць сум мой жывы.
Адкажыце, адкуль і з якога вы краю
Прыляцелі сюды на начлег, журавы.

Ды, на жаль, у жыцьці не бывае дзівосаў —
Мне ня стаць журавом тут, пад небам чужым.
Тут, пад небам чужым, і ў гэтую восень
Застаюся я жыць, застаюся тужыць.



# Царевна-несмеяна

Г.Шангин-Березовский




Ты стаіш ля вакна
Цераз вуліцу ад неба,
Непраглядны свой сум
Ня ўмееш разагнаць...
Ты кахаеш таго,
З кім усё ня так, як трэба,
Ты ізноў без яго
Ля вакна стаіш адна.

Ну чаму толькі ён,
Ёсьць жа іншыя навокал,
Можа проста табе
Няутульна быць адной?
У абшарах зімы
Не знаходзіцца палёгка,
Але верыцца, што
Нешта зьменіцца вясной.

Пройдзе час, пройдзе час,
І прыпомніш ты з усьмешкай
Гэты вечар, як сон
Ранкам новага жыцьця.
А пакуль, а пакуль
Сьветлым сумам непазьбежным
Разьвітаньне з дзяцінствам
У мокрых вачах.



# Мурка

## Народная песня




Фраераў сьмярдзючых скубла на анучы
Мурка, як канкрэтная чума.
Кабакі-вакзалы бачылі нямала,
Але нехта фарт нам абламаў.

Раптам мы адчулі — нас мянты прэсуюць —
Зуб за сто — у баньдзе стукачок,
Але ж ён нарвецца, не сыйсьці мне з месца,
Прычакае піку ў левы бок.

Мурка блатавала так, што месца мала,
Сьвет такіх ня бачыў цэнтравых.
Ці ж братва чакала, што ў чэку зьлівала
Мурка, курва, карашкоў сваіх.

Мурка — жаданьне палкае,
Мурка бяды накаркала,
Мурку маю каханую
Прыб'ю, каб памятаць.




Шарык блакітны ў небе лунаў,
Хлопец дзяўчыну па сьвеце шукаў,
Шарык блакітны за плот паляцеў,
Хлопец дзяўчыну ўкрасьці схацеў.

Дзе тая вуліца, дзе яе дом?
Сэрца трымціць і палае вагнём...
Вось тая вуліца, вось яе дом,
Вось і сама яна перад вакном.

Сьмела бліжэй да яе падыйду,
Слова скажу, абдыму і скраду.
Крылы каханьне нам дасьць, каб ляцець,
Зоркамі яснымі з неба зіхцець.

Шарык блакітны ляжыць пад кустом,
Для закаханых у небе ёсьць дом.
Шарык блакітны адлётаў сваё,
А хлопец з дзяўчынай навекі ўдваёх.



# Шумел камыш

## Народная песня




У трысьнягу схаванай тайнай
Мінала ліпеньская ноч,
Каханьне дзеўчына шукала,
Але яно прайшло наўзбоч.

Было пад раньне разьвітаньне
Сярод прымятых лапухоў.
І адчуваньне — ён падмане —
Раптоўна астудзіла кроў.

— І што сказаць матулі дома?
Дзе цэлу ночаньку была?
— Скажы, сьцяжынкай невядомай
Дахаты першы раз ішла.

А як ня дасьць матуля веры,
Вяртайся — буду тут чакаць...
Дзяўчына слухала жаўнера,
Ды дзе цяпер яго шукаць?

Прыкрыла вочы хусткай шэрай
На пасівелай галаве
І што паверыла жаўнеру,
Напэўна, не перажыве.




Ах, васількі, васількі,
Зьлева і справа на полі,
Помню ля самай ракі
Коля зьбіраў іх для Олі.
Оля любіла раку,
Коля любіў толькі Олю —
Безьліч жыцьцёвых пакут
Выпала Колю на долю.
Нібыта нейкі праклён
Жыць не даюць падазрэньні,
Оля ж казала, што ён
Проста сабака на сене.

Як падыйшлі да ракі,
Селі ў човен, паплылі,
Кінуўшы два васількі,
Рэчку яны папрасілі.
Ты нам, вада, патлумач,
Маем такое пытаньне —
Нам паратунку няма
З гэтым няпростым каханьнем.
Олін — адразу на дно,
Коляў жа троху паплаваў,
Стала канкрэтна відно,
Хто каму рогі наставіў.
Коля дрыготкай рукой
Олю ў рэчку ўкінуў —
Вось ён — жаданы спакой,
Мара любога мужчыны.
Бачылі ўсё рыбакі,
Колю яны спачувалі,
Толькі праз тыдзень з ракі
Олю нарэшце дасталі.



# Чёрный ворон

## Народная песня




Нада мной у сінім небе
Найчарнейшы з груганоў,
Не ляці бліжэй, ня трэба,
Час яшчэ не надыйшоў.
Што ты кіпці распускаеш
Над маёй, брат, галавой?
Ці спажыву адчуваеш?
Я ж пакуль яшчэ ня твой.

Я яшчэ бінтую рану
Ля сьмяротнае мяжы,
Але ж долю не падманеш —
Мне да ночы не дажыць.
Узьляці, груган, высока,
Завітай у родны край.
Што загінуў за Радзіму,
Ты матулі перадай.
І з каханай павітайся,
Ды ўжо іншай навіной —
Перадай, хай не чакае —
Ажаніўся я з другой.
Узяў маўклівую нявесту
Ад настойлівых сватоў —
Абвянчала мяне куля
Ў чыстым полі пад кустом.
Пакружляўшы ў небе чорным,
Найбялейшы з груганоў
Непазьбежна і спакойна
Апускаецца за мной.



# Дружба

А. Шмульян

В. Сидоров




Як толькі ты з усёй пяшчотай
У сэрца мне зірнеш наўпрост,
Душа пакіне сваю самоту,
Каб не забыць ніколі пра мілосьць.

Сьвятло сустрэч і боль расстаньняў
Хачу дзяліць з табой заўжды.
Руцэ рука, душы каханьне
І доўгі шлях праз дні і гарады.

Мы марных слоў казаць ня хочам,
Усё бяз іх вядома нам.
Да сэрца праўду даносяць вочы,
І мы удзячны сэрцу і вачам.



# Перасьпевы Рыгора Барадуліна




Раньне туманнае, раньне сівое,
Нівы журлівыя, сьнегам пакрытыя...
Разам з маркотаю ўспомніш былое,
Ўспомніш абліччы, за часам забытыя.

Словы гарачыя ўспомніш дарэчы,
Позіркі сьціплыя, жарсьцю натхнёныя,
Першых сустрэчаў, апошніх сустрэчаў,
Ціхага голасу гукі ўлюбёныя.

Ростань успомніш з усьмешкай нявіннай,
Роднае ўспомніш, такое далёкае,
Чуючы колаў гук несупынны,
Ґледзячы мройліва ў неба шырокае.



# Я встретил вас

Ф.Тютчев

П.Булахов




Сустрэў я Вас і усё былое
У змоўклым сэрцы ажыло,
І ўжо душы няма спакою,
І сэрца ўспомніла цяпло.

Як позьняй восені парою
Бываюць дні, бывае час,
Калі наноў дыхне вясною,
І нешта ўзварухнецца ў нас.

Зноў лёгка дыхаю, нібыта
Асеньні сад пасьля дажджу.
І з пачуцьцём даўно забытым
На рысы любыя гляджу.

Зьнік гнёт акоў вякоў разлукі,
Гляджу на Вас, нібыта ў сьне,
І ўжо сьмялей чутнеюць гукі,
Што змоўкнуць не змаглі ўва мне.

Тут не ўспамін, не хваляваньне —
Жыцьцё прамовіла з цішы —
Былое ў Вас замілаваньне,
Каханьне у маёй душы.



# Не пробуждай воспоминаний

Н.Н.

П.Булахов




Мінулых дзён замілаваньне
Не варушы, не варушы,
Былое не вярнуць жаданьне
Маёй душы, маёй душы.

Сваім паглядам небясьпечным
Не вар'яці, не вар'яці.
І мроім аб каханьні вечным
Мы ўсе ў жыцьці, мы ўсе ў жыцьці.

Са шчасьцем сьветлае спатканьне
Падорыць час, падорыць час,
Агонь сьляпы, агонь каханьня
Апаліць нас, апаліць нас.

А хто ў сабе агонь каханьня
Змог затушыць, змог затушыць,
Той не пазьбегне пакараньня
У цемры жыць, у цемры жыць.